Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 390.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ

Серада, 15 красавіка 1998 г. | № 39 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Чарнобыльскі шлях-98 дазволілі, але скарацілі

**Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне Чарнобыльскага шляху ў суботу, 25 красавіка. Але маршрут шэсця ўлады змянілі.**

Калі ў папярэднія гады Шлях пачынаўся ад Акадэміі навук, то цяпер месцам збору і пачатку жалобнага шэсця прызначаная плошча Якуба Коласа. Згодна з планамі арганізатараў, Шлях павінен пачацца ў 16 гадзінаў 30 хвілінаў. Калона пройдзе па праспекце Скарыны да цырка, потым зверне на вуліцу Янкі Купалы, а завершыцца акцыя мітынгам на плошчы каля Опернага тэатра.

Як заявіў адзін з арганізатараў мерапрыемства намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, аргкамітэт Чарнобыльскага шляху не згодны са зменай маршруту, але вымушаны падпарадкоўвацца рашэнню гарадскіх уладаў. Дзе будзе ісці калона: па тратуарах ці ўсё ж па праезнай частцы? Па словах Юрыя Хадыкі, кіраўніцтва гарадской міліцыі запэўніла, што калоне будзе дазволена прайсці па праезнай паласе. Аднак лідэр БНФ заўважае, што ў пісьмовым рашэнні гарвыканкама гэты дазвол вызначаны даволі туманнай фармулёўкай — «без перашкодаў транспарту». Аргкамітэт Чарнобыльскага шляху цяпер прыкладае намаганні, каб у дакуменце быў пацверджаны дазвол на праход менавіта па праезнай частцы праспекта.

Што тычыцца галоўнай ідэі сёлетняга Чарнобыльскага шляху, то, на думку Юрыя Хадыкі, ён павінен засяродзіць увагу беларускага народа на абставінах, якія сталі прычынай выпадзення радыеактыўных асадкаў менавіта на тэрыторыі Беларусі. Па словах Хадыкі, тады, у красавіку 1986 года, небяспечныя воблакі з радыяцыяй пагражалі Маскве. Каб уратавацца, Крэмль прыняў рашэнне з дапамогай авіяцыі «стымуляваць» выпадзенне асадкаў. Менавіта таму забруджанымі аказаліся тэрыторыі вакол Чарнобыльскай атамнай станцыі, у тым ліку і вялікая колькасць беларускіх земляў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Манаполія вяртаецца

**Распрацаваны праект дэкрэта прэзідэнта, які прадугледжвае дзяржаўную манаполію на ўвоз у Беларусь і вываз з рэспублікі шэрагу тавараў.**

Пералік гэтых тавараў, згодна з праектам, павінен быць вызначаны Саветам міністраў па ўзгадненні з прэзідэнтам. Увоз і вываз тавараў, якія могуць быць уключаныя ва ўказаны пералік, *«ажыццяўляюцца толькі дзяржаўнымі арганізацыямі, упаўнаважанымі прэзідэнтам, у межах квот, зацверджаных Саветам міністраў па ўзгадненні з прэзідэнтам... Іншым прадпрыемствам, аб'яднанням, установам і арганізацыям увоз і вываз указаных тавараў забараняецца»*.

Акрамя таго, праектам мяркуецца ўстанавіць, што аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам *«пры неабходнасці»* вызначаюць нормы продажу тавараў. Прычым продаж тавараў фізічным і юрыдычным асобам *«звыш нормы»* ў выпадку прыняцця гэтага дэкрэта будзе мець наступствам *«накладанне штрафу ў памеры ад 50 да 100 мінімальных зарплат»* на грамадзян і ад 150 да 300 — на службовых асобаў.

*БелаПАН*

## Чаму не грэюць батарэі

**Нягледзячы на халоднае надвор'е, у Брэсцкай вобласці раней звычайнага завершаны ацяпляльны сезон.**

З 13 красавіка па распараджэнні абласных уладаў у Брэсцкай вобласці паўсюль адключылі батарэі — выключэнне зроблена толькі для бальніц і дзіцячых дашкольных установаў. Ацяпляльны сезон завяршыўся раней звычайнага ў сувязі з абмежаваннямі паставак з Расіі прыроднага газу. Мясцовыя медыкі прагназуюць рост прастудных захворванняў. Акрамя таго, чакаецца рэзкае павелічэнне ўжывання электраэнергіі, паколькі без абагравальных прыбораў у многіх кватэрах знаходзіцца проста немагчыма.

Тым часам міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі накіравала пісьмо мясцовым выканкамам, у якім рэкамендуе адключаць ацяпленне альбо пераходзіць «на рэжым пратаплівання» (днём адключаць, а нанач падключаць цяпло), калі тэрмометр паказвае 8 градусаў цяпла на працягу 5 сутак. Калі ж хапае паліва, то міністэрства дазваляе тапіць без перабояў. Мінскі гарвыканкам з пачатку месяца адключыў атапленне лесвічных клетак у пад'ездах дамоў. Ніхто не гарантуе, што паліва хопіць і на кватэры.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, Мікола ВАЙТОВІЧ**



### *Надвор'е*

***Як паведамляе Гідраметэацэнтр, у бліжэйшыя тры дні надвор'е ў Беларусі істотна не зменіцца. Амаль па ўсёй рэспубліцы чакаюцца дажджы. Тэмпература паветра +4 ... +9° С, на захадзе да +11. Уначы 0 ... +5°.***



***Сёння — акурат сярэдзіна вясны. Няма цяпла, але ёсць усмешкі.***

## У Варшаву – на кансультацыі

**Заўтра ў Варшаве пачнуцца двухдзённыя кансультацыі беларускага і польскага знешнепалітычных ведамстваў. На іх мяркуецца абмеркаваць сённяшні стан і перспектывы двухбаковых адносінаў.**

Як паведамілі нам у беларускім МЗС, дыпламаты збіраюцца падчас гэтых рабочых перамоваў закрануць *«пытанні палітычнага дыялогу, бяспекі, а таксама эканамічнага супрацоўніцтва»*. Чыноўнікі не пажадалі канкрэтызаваць змест двухбаковых кансультацыяў. Аднак можна не сумнявацца, што яны будуць няпростымі.

Два месяцы таму беларускія ўлады ўсур'ёз пасварыліся з Польшчай. З Варшавы нават быў адкліканы «для кансультацыяў» пасол В.Бурскі. Міністр Іван Антановіч назваў «недружалюбнымі» новыя правілы перасячэння мяжы, уведзеныя Польшчай. Сыпаліся таксама абвінавачанні, нібыта Польшча *«ўмешваецца ва ўнутраныя справы Беларусі»* — так было расцэнена правядзенне ў РП семінараў з удзелам беларускай апазіцыі. Пасля пайшоў дыпламатычны наступ з Мінска на візіт у Беларусь старшыні АБСЕ, польскага міністра замежных справаў Браніслава Герэмэка. Афіцыйны Мінск патрабаваў прыезду Б.Герэмэка ў якасці міністра суседняй краіны, а не старшыні АБСЕ — каб ухіліцца ад абмеркавання агульнаеўрапейскіх праблемаў, звязаных з парушэннем правоў чалавека ў нашай краіне. Міністр Антановіч быў так пакрыўджаны, што нават не паехаў сустракаць Герэмэка ў аэрапорт.

Пазней у польскім друку з'явіліся інтэрв'ю апальнага бізнесмена Аляксандра Пупейкі, які заявіў пра наяўнасць лукашэнкаўскіх рахункаў у замежных банках. Да таго ж, польскія ўлады далі А.Пупейку палітычны прытулак. Тым часам афіцыйны Мінск пачаў выкарыстоўваць усе дыпламатычныя каналы, каб прымусіць замаўчаць А.Пупейку. Нарэшце, на сустрэчы з кардыналам Свёнтэкам прэзідэнт Лукашэнка абвінаваціў ксяндзоў у «апалячванні» паствы.

Беларускі бок, быццам сварлівы сусед, паспеў столькі нагарадзіць у запале, што на кансультацыі ў Варшаву накіроўвае начальнікаў некалькіх упраўленняў МЗС.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Палата» – не парламент

### *Меркаванні палітыкаў наконт магчымых парламенцкіх выбараў*

**Інфармацыя пра тое, што Лукашэнка (пад уздзеяннем не толькі Захаду, але і Расіі) гатовы абвясціць у Беларусі парламенцкія выбары, паставіла шэраг пытанняў. І хаця сам Лукашэнка заявіў, што выбараў у бліжэйшы час не будзе, а Масква выказала пазіцыю, што выбары з'яўляюцца ўнутранай справай Беларусі — магчымасць таго, што Лукашэнка, з мэтаю паправіць свой міжнародны імідж, пойдзе на правядзенне парламенцкіх выбараў, застаецца цалкам верагоднай. Таму гэтыя пытанні застаюцца на парадку дня. З імі мы і звярнуліся да лідэраў найбуйнейшых палітычных партыяў.**

*1. Ці лічыце вы рэальным правядзенне ў Беларусі парламенцкіх выбараў напрыканцы бягучага года?*

*2. Калі Лукашэнка вырашыць правесці выбары ў сваю «палату», ці будзе, на вашую думку, «палата» прызнаная Еўропай?*

*3. Пры якіх умовах апазіцыі варта браць удзел у парламенцкіх выбарах?*

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**



1. Мне цяжка ацэньваць дакладнасць інфармацыі наконт выбараў увосень гэтага года. Не выключаю, што гэтая ідэя прапрацоўваецца ва ўладных колах.

2. Ёсць падставы спадзявацца, што Еўропа гэткіх выбараў не прызнае. Па-першае, Захад не прызнае вынікі «рэферэндуму» і, адпаведна, «канстытуцыю» 96-га года. Акрамя таго, для Захаду важным з'яўляецца не толькі сам факт выбараў, але і стартавыя ўмовы, у якіх знаходзяцца розныя палітычныя сілы. Калі яны няроўныя, — значыць, рэальнай магчымасці выбару ў народа няма. Апошні прыклад: дзяржструктурам забаранілі, насуперак Канстытуцыі і законам, даваць любую інфармацыю недзяржаўнай прэсе. Хіба ў такой сітуацыі могуць быць прызнаныя нейкія выбары?

3. Канешне, апазіцыі трэба зыходзіць з таго, што парламенцкія выбары павінны праходзіць па легітымнай Канстытуцыі 1994 года. Але зразумела, што цяперашні рэжым на вяртанне Канстытуцыі ніколі не пойдзе. Тут магчымы кампраміс у той ці іншай форме («круглы стол» ці перамовы) па канстытуцыйным ладзе. У Канстытуцыю 1994 года могуць быць унесеныя пэўныя змяненні, якія прапануе выканаўчая ўлада. Але парламент павінен быць паўнавартасным заканадаўчым органам з належнымі паўнамоцтвамі (як ён будзе называцца — неістотна), а не марыянеткай, якой па лукашэнкаўскай «канстытуцыі» з'яўляецца «палата».

Аднак паўнамоцтвы парламента — толькі частка праблемы. Апазіцыя павінна мець рэальную магчымасць данесці сваю пазіцыю да выбаршчыкаў. Для гэтага апазіцыя павінна атрымаць доступ да дзяржаўных СМІ (перш за ўсё на радыё і тэлебачанне), а таксама неабходна адмяніць дэкрэты, якія абмяжоўваюць свабоду сходаў. Цэнтрвыбаркам і іншыя выбарчыя камісіі павінны фармавацца на дэмакратычных прынцыпах, а за ходам выбараў забяспечаны сапраўдны кантроль. Толькі пры гэтых умовах апазіцыі варта ісці на выбары.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, в.а. старшыні Беларускага Народнага Фронту:**



1. Калі ў казне сп.Лукашэнкі ёсць лішнія грошы, каб разыгрываць чарговы фарс, ён можа і прызначыць парламенцкія выбары. І марнатраўствам грошай з'яўляюцца не толькі самі выбары, а і ўтрыманне гэтага органа. Вартасць лукашэнкаўскага «парламента» ўжо добра паказаная, як выдатна вядома і тое, што любыя выбары, якія правядзе Лукашэнка, ніколі не дадуць магчымасці вызначыць сапраўдную думку народа.

2. З Еўропай трэба няспынна працаваць і ў кожным канкрэтным выпадку тлумачыць еўрапейцам сутнасць дыктатарскага рэжыму ў Беларусі. Калі апазіцыя здолее давесці да еўрапейскіх структураў і дзяржаваў, што лукашэнкаўскія выбары з'яўляюцца фарсам, я ўпэўнены, што Еўропа не прызнае «палату» і ў новым складзе.

3. Аснова любых выбараў — вяртанне Канстытуцыі 1994 года. Канешне, любая канстытуцыя — не догма, у яе могуць і павінны ўносіцца змяненні. Але толькі законным чынам. У нашым выпадку гэта значыць — праз Вярхоўны Савет. Усе іншыя спробы змяніць Канстытуцыю будуць нелегітымнымі.

Але гэтага недастаткова. Нават калі ўявіць, што Канстытуцыя будзе вернутая сёння, усё роўна ў лістападзе рана прызначаць выбары. Трэба зразумець, што дэмакратыя не абмяжоўваецца адным днём выбараў ці адным месяцам перадвыбарчай кампаніі, нават калі ў гэты дзень будзе забяспечаны поўны кантроль і пры падліку не будзе фальсіфікацыяў, а падчас кампаніі магчымасці выказацца не будуць абмяжоўвацца. Калі перад гэтым апазіцыю пастаянна палівалі брудам па афіцыйных, перш за ўсё электронных, СМІ — за месяц гэтага не выправіш. Неабходна, каб да выбараў прайшоў мінімум год ва ўмовах, калі ўсе свабодна могуць выказваць свае думкі на сходах і праз СМІ.

*(Працяг на стр.2)*

 



# Урад не можа справіцца з інфляцыяй

**З пачатку года спажывецкія цэны ў Беларусі ўзраслі на 10,6%.**

Нягледзячы на жорсткія адміністратыўныя меры, прадпрынятыя ўрадам і накіраваныя на «адкручванне цэнаў», рост спажывецкіх цэнаў за сакавік перавысіў прагнозны паказчык і склаў 3,3%. У першым квартале 1998 года не ўдалося знізіць інфляцыю да паказчыка, зацверджанага ўказам прэзідэнта: замест запланаваных 2% інфляцыя склала каля 3,5% у месяц.

# Не ўмеем рабіць ці кепска прадаем?

**З пачатку года амаль чвэрць беларускіх прадпрыемстваў-экспарцёраў значна зменшылі пастаўкі прадукцыі ў краіны далёкага замежжа і на Украіну.**

Эксперты міністэрства знешніх эканамічных сувязяў адзначаюць, што адначасова імпарт значна перавышае планавыя паказчыкі. Сярод захадаў, накіраваных на паляпшэнне гандлёвага балансу, прапануюцца, у прыватнасці, ільготнае крэдытаванне экспартных заказаў, адмена падатку на імпарт сыравіны, энергарэсурсаў, запчастак, інструментаў і абсталявання, што выкарыстоўваюцца для вытворчасці экспартнай прадукцыі, і інш.

*БелаПАН*

# Еўропа памятае пра беларускіх журналістаў

**«Праблемы абароны правоў журналістаў» — міжнародны семінар на гэтую тэму пройдзе ў Мінску 17-18 красавіка.**

Арганізоўвае яго Міжнародная федэрацыя журналістаў пры падтрымцы Савета Еўропы. На працягу двух дзён будуць разгледжаны праблемы ўзаемаадносінаў прэсы і ўлад, а таксама асаблівасці развіцця заканадаўства ў галіне мас-медыа ў Беларусі і Літве. Плануецца абмеркаваць дзейнасць недзяржаўных арганізацыяў па абароне правоў журналістаў.

А з 28 па 30 красавіка ў Мінску будзе знаходзіцца спецыяльны прадстаўнік АБСЕ па сродках масавай інфармацыі Фраймут Дуве. Падчас візіту спадар Дуве правядзе шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі ўладаў і апазіцыі, будзе абмяркоўвацца стан заканадаўства, якое датычыць СМІ, а таксама практычныя аспекты іх дзейнасці.

*БелаПАН*

# Брэсцкія банкіры збіраюцца баставаць

**Супрацоўнікі рэгіянальнага ўпраўлення Белкамбанка пратэстуюць супраць незаконнага, на іх думку, звальнення кіраўніка Наталлі Кушнярук.**

Яна была звольненая цэнтральным кіраўніцтвам Белкамбанка *«за сістэматычнае невыкананне службовых абавязкаў»*. Сама Кушнярук сцвярджае, што яна стала ахвярай карумпаванага кіраўніцтва Белкамбанка. У знак пратэсту супраць звальнення былога кіраўніка, працоўны калектыў брэсцкага ўпраўлення банка правёў 6 красавіка папераджальны страйк і на тры гадзіны спыніў работу. Сёння, 15 красавіка, яны збіраюцца зноў баставаць. Тым часам следам за Кушнярук 16 кіраўнікоў аддзелаў падалі заявы на звальненне. Сама Н.Кушнярук накіравала ў суд іск аб аднаўленні яе на працы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# КДБ шукае цыгарэты

**Гомельскія спецслужбы выкрылі новы канал перавозкі кантрабанднага тавару.**

У ходзе аператыўных мерапрыемстваў спецыялісты КДБ схапілі за руку машыністаў лакаматыўнага дэпо «Гомель», якія перавозілі тавары праз беларуска-украінскую мяжу без мытнага афармлення. Машыністы спынялі цеплавозы ў пэўных месцах, дзе іх чакалі падзельнікі, якія загружалі службовыя памяшканні цеплавоза скрынямі цыгарэтаў. Супрацоўнікі КДБ сканфіскавалі ў цыгуначнікаў імпартных цыгарэтаў на 40 мільёнаў рублёў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# «Палата» – не парламент

*(Пачатак на стар. 1)*

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня Партыі камуністаў Беларусі:**



1. Я лічу, што інфармацыя аб правядзенні сёлета выбараў не адпавядае рэальнасці. Гэта толькі чуткі, якія невядома адкуль узяліся.

2. Прызнаць лукашэнкаўскую «палату» — гэта ўсё адно, што прызнаць заканадаўчым органам палату ў дурдоме. Еўропа гэтага не зробіць.

3. Галоўная ўмова такая: каб нармальныя людзі мелі магчымасць сказаць іншым нармальным людзям (якіх у рэспубліцы большасць) слова праўды. Па тэлебачанні, па радыё, у газетах. Нават калі слова праўды будзе гучаць праз 2.000 слоў хлусні — яно заўжды праб'ецца, і тады гэтаму рэжыму канец. Але пакуль што ў дзяржаўных СМІ — суцэльная хлусня. Калі туды дапусцяць слова праўды, я лічу, можна ісці на выбары.

**Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада»:**



1-2. Я не лічу абвяшчэнне выбараў рэальным, таму што не бачу, якія выгады можа атрымаць з гэтага кроку рэжым. Так ці інакш, абвяшчэнне выбараў Лукашэнкам відавочна будзе ўспрымацца як слабасць. А якія плюсы, што гэта кампенсуюць? Адзіным магла б быць легітымізацыя «палаты» — але Еўропа «палату» не прызнае і пасля выбараў. Таму гэты крок для рэжыму немэтазгодны. Я думаю, што рэжым свядома падкінуў апазіцыі дэзінфармацыю наконт восеньскіх выбараў.

3. Гледзячы якія выбары. У парламенцкіх выбарах удзельнічаць трэба. Але «палата» — не парламент, і ў выбарах у «палату» апазіцыі браць удзел не варта.

Апазіцыя павінна патрабаваць аднаўлення дзеяння Канстытуцыі 1994 года. Аднак усім ясна, што гэта нерэальна, і гэта можна разглядаць як першапачатковую пазіцыю, ад якой непазбежна прыйдзецца адыходзіць дзеля магчымага кампрамісу. Галоўнае, каб быў забяспечаны падзел уладаў, каб парламент не быў дэкаратыўным. Калі гэтая ўмова будзе забяспечаная, трэба ісці на выбары. Альтэрнатыва выбарам — гэта вайна. Думаю, усе пагодзяцца, што выбары лепей.

І рыхтавацца да выбараў апазіцыі трэба ўжо цяпер, незалежна ад таго, калі яны будуць. Апазіцыйныя сілы павінны ўвесь час працаваць на свой аўтарытэт. Увогуле я лічу, што ўхіл у працы трэба рабіць не на буйныя гарады, а на рэгіёны, дзе становішча значна горшае. «Народная грамада» стараецца працаваць менавіта такім чынам. Лідэры сацыял-дэмакратаў пастаянна ездзяць па рэгіёнах. У 15-ці раёнах мы выдаём газеткі накладам ад 250 да 2.000 экземпляраў (дарэчы, адна з іх называецца «Шклоўскія навіны»). Прычым у гэтых газетках акцэнт робіцца на сацыяльнай тэме: тут няма гарачай вады, там кепска ходзяць аўтобусы, нейдзе начальнік міліцыі збіў жанчыну ў пастарунку. Гэта хвалюе людзей больш, чым высокая палітыка.

**АНАЛІЗ**

# Стратэгія, якой няма



***Сітуацыю вакол магчымых парламенцкіх выбараў каментуе вядомы палітолаг Аляксандр ПАТУПА:***

— Пытанне парламенцкіх выбараў у нашай краіне ў вельмі значнай ступені залежыць ад пазіцыі Расіі. А Масква, у сваю чаргу, будзе вызначаць гэтую пазіцыю ў залежнасці ад таго, наколькі беларускі фактар будзе істотным для расійскіх выбаршчыкаў. Пакуль уяўляецца, што вельмі істотным.

З аднаго боку, розныя расійскія палітыкі, у тым ліку і крамлёўскія, хочуць зарабляць ачкі на інтэграцыі. Але ў межах СНД ніякіх рэальных зрухаў не адбываецца, і наогул невядома, што застанецца ад Садружнасці ў бліжэйшай будучыні (магчыма, што і нічога). Расійска-беларуская «двойка» выглядае яшчэ больш смешна. З другога боку, расійская эканоміка знаходзіцца ў найцяжэйшым стане, і Расіі патрэбныя грошы, а не братэрскія абдымкі.

Акрамя таго, палітыка Лукашэнкі, як узор, небяспечная для ўсяго свету, а для Расіі асабліва. Крэмль нарэшце гэта ўсвядоміў, што бачна са зместу яго палітыкі ў дачыненні да Беларусі з пачатку гэтага года.

Таму досыць верагодна, што Маскве ў хуткім часе канчаткова надакучыць лукашэнкаўскі рэжым, і яна пачне паводзіць сябе больш рэзка. Магчыма, Масква пастараецца замяніць Лукашэнку нейкім іншым чалавекам. Для гэтага неабавязкова скарыстоўваць экстрэмальныя метады — хопіць эканамічных, палітычных і інфармацыйных.

Калі рэжым здуру ўсё ж абвесціць выбары ў «палату», Еўропа на іх не прызнанне ўсё адно не пойдзе. Лукашэнка даўно высоўвае новыя выбары як умову гандлю з Еўропаю — не прынятая гэткая ўмова.

Дапускаю, што ў выбарах у «палату» могуць узяць удзел дробныя партыі, якім хочацца хаця б дзесьці папрысутнічаць. Але, калі б гэта надумаліся зрабіць асноўныя апазіцыйныя сілы — то была б грубая памылка. Тады б нашая апазіцыя паставіла Еўропу ў дурное становішча. Я спадзяюся, што ў трох найбуйнейшых апазіцыйных партыяў хопіць розуму гэтага не рабіць.

Парламенцкія выбары — гэта толькі элемент у кантэксце агульнага становішча. На сённяшні дзень сітуацыя такая, што ні «нацыянальны сход», ні ўрад, ні прэзідэнт (паколькі выйшаў за рамкі Канстытуцыі, па якой абіраўся) не з'яўляюцца легітымнымі суб'ектамі ўлады. Магчыма, у аглядны час мы будзем сведкамі працэсу перамоваў па выпрацоўцы выбарчай мадэлі, якая не будзе зводзіцца ў чыстым выглядзе ні да Канстытуцыі 1994 года, ні да «канстытуцыі» 96-га. Еўропа (а можа, і Крэмль) паспрабуюць адшукаць магчымасць такога вырашэння — але наўрад ці атрымаюць поспех.

Аднак, калі б тыя выбары ні былі, апазіцыя не павінна разлічваць, што атрымае вынік наскокам падчас передвыбарчай кампаніі. Апазіцыі, на маю думку, трэба не столькі займацца пошукамі персаналіі агульнага лідэра, колькі спрабаваць кансалідавацца вакол пэўнай стратэгіі. Пад апазіцыяй я маю на ўвазе шырокі фронт, г.зн. не толькі 3 найбуйнейшыя палітычныя партыі (БНФ, АГП, сацыял-дэмакраты), але і «трэці сектар» — грамадскія арганізацыі, прафсаюзы, СМІ, аналітыкаў, праваабаронцаў — якія адыгрываюць у нашай прасторы не меншую ролю, чым партыі і рэшткі Вярхоўнага Савета разам узятыя.

Некаторыя захады па выпрацоўцы такой стратэгіі ўжо рабіліся. Да іх можна аднесці «Хартыю-97» і «Выбар-99», паспартызацыю БНР і збіранне подпісаў за імпічмент. Аднак усё гэта — не больш як нервовыя парывы, вынікам якіх сталася толькі маса «белага шуму».

Стратэгія павінна быць накіраванай на дэмакратычную трансфармацыю краіны, прычым комплексна змяшчаць усе неабходныя пераўтварэнні — у эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, прававой сферы. Але я падкрэсліваю: маецца на ўвазе не праграма развіцця краіны пасля прыходу да ўлады. Калі апазіцыя збярэ ўсе свае ценявыя ўрады ды парламенты і папрэцца на выбары, у нашых умовах такі варыянт вырачаны на паразу. У нашых умовах трэба знайсці вельмі спецыфічныя формы, з улікам асаблівасцяў стану нашай інфармацыйнай прасторы і нашага электарату.

Праграма павінна быць накіраваная на здзяйсненне канкрэтных крокаў, якія зменяць сітуацыю ў краіне. Дамінантай сітуацыі з'яўляецца рэжым — значыць, гэты рэжым трэба пераадолець. Перш за ўсё для гэтага трэба развянчаць харызму Лукашэнкі, рэзка знізіць яго вагу ў грамадстве. Абавязкова трэба ўлічваць, што стратэгія павінна быць разлічаная на розныя слаі насельніцтва, арыентаваная на ўспрыманне канкрэтнымі сацыяльнымі групамі.

Што тычыцца формы падачы праграмных палажэнняў, дык гэтай справай павінны займацца спецыялісты — людзі, якія валодаюць палітычнымі тэхналогіямі, тэхналогіямі сцэнарнай работы.

Канешне, каб кампенсаваць харызму Лукашэнкі, любыя праграмы павінны персаніфікавацца ў пазітыўнай фігуры. Але пасляодоўнасць павінна быць менавіта такой: спачатку — выпрацоўка стратэгіі і прывабнай вокладкі, у якой можна паспахова яе падаць; і толькі потым — знаходжанне альтэрнатыўнай фігуры. Без стратэгіі апазіцыя не будзе мець поспеху ні на якіх выбарах.

*Гутарыў*
**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Лявонаў баіцца, што яго могуць адправіць на той свет

**Яшчэ як мінімум два месяцы будуць знаходзіцца за кратамі былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў і былы старшыня «Рассвета» Васіль Старавойтаў.**

Прынята рашэнне падоўжыць тэрмін следства па іхніх справах. Следчыя спасылаюцца на цяжкасць злачынстваў, вялікі аб'ём працы і недахоп часу. Між тым, па нашых дадзеных, ніводнаму з двух арыштантаў новыя абвінавачванні не прад'яўленыя, а следчыя дзеянні вядуцца з імі вельмі нерытмічна. Напрыклад, ужо больш за месяц на допыты не выклікаецца Васіль Старавойтаў, які, як і Васіль Лявонаў, знаходзіцца пад арыштам ужо шэсць месяцаў. Заўтра, 16 красавіка, яму споўніцца акурат 60 гадоў.

Як мы ўжо паведамлялі, тры тыдні таму Лявонава перавялі з мінскай «амерыканкі» ў Жодзінскі СІЗО, дзе ён утрымліваецца ў адной камеры з крымінальнікамі. Аднак яму ўдалося перадаць ліст на волю, у якім былы міністр выказвае апасенне, што яго можа напаткаць лёс Валерыя Ткачова — былога супрацоўніка КДБ, які нядаўна «павесіўся» ў турэмнай камеры. У гэтым лісце Васіль Лявонаў просіць перадаць усім, хто яго ведае: ніколі, ні пад якім ціскам ён не пойдзе з жыцця добраахвотна. *«Калі з'явіцца афіцыйнае паведамленне аб маім самазабойстве, як гэта было з Валерыем Ткачовым, — не верце. Гэта будзе азначаць толькі, што рэжым расправіўся яшчэ з адным няўгодным яму чалавекам»,* — піша Лявонаў.



*На здымку: Аб'яднаная грамадзянская партыя рэгулярна праводзіць у Мінску пікеты за вызваленне дэпутата Клімава.*

Тым часам адразу на чатыры месяцы павялічаны і тэрмін расследавання справы Андрэя Клімава, які сядзіць у мінскім следчым ізалятары з 11 лютага. Следчы Аляксандр Кужаль, які вядзе справу Клімава, сцвярджае, што яшчэ трэба зрабіць шмат экспертызаў, даследаванняў ды іншых следчых дзеянняў. Па нашых звестках, дэпутат не прызнае сябе вінаватым ні па адным з парушэнняў, якія яму інкрымінуюць.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

 

# Пад знакам вечнасці

## 475 гадоў таму ўбачыла свет «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага

**Уладзімір АРЛОЎ**

Старажытныя філосафы казалі, што слава — гэта сонца мёртвых. Да Гусоўскага слава таксама прыйшла пасля смерці — і не праз гады, а праз некалькі стагоддзяў.

Жыццяпіс паэта-гуманіста, які разам з сучаснікам Францішкам Скарынам належыць да найвыдатнейшых асобаў эпохі Адраджэння, надзейна ахутаны смугой часу. Гэта дае магчымасць заяўляць аб прэтэнзіях на Гусоўскага палякам, літоўцам і ўкраінцам. Прэтэндэнты ўпарта не заўважаюць відавочнага: на пытанне пра паходжанне аўтар геніяльнай «Песні» адказаў галоўным творам свайго жыцця, паказаўшы сябе не толькі патрыётам Вялікага Княства, але і глыбокім знаўцам звычаяў, заняткаў і вераванняў тагачасных беларусаў.

*Рэкі лясныя,*
*Дняпра паўнаводнага стрыжань,*
*Конна з буланым адольвай*
*у гоне за зверам, —*

пісаў ён, згадваючы, як юнаком не раз удзельнічаў у паляваннях на зуброў. Дняпро, як вядома, не цячэ ні ў Польшчы, ні ў Літве, а ва ўкраінскіх стэпах, у адрозненне ад беларускіх пушчаў, ніколі не бачылі зубра.

Сённяшнія айчынныя даследчыкі лічаць найбольш верагодным месцам нараджэння Гусоўскага вёску Уса (Усава) у цэнтральнай Беларусі. Менавіта гэты пункт погляду замацаваўся ў трэцім томе нашай гістарычнай энцыклапедыі. Паэт прыйшоў на свет у 1470-я гады ў сям'і вялікакняскага палясоўшчыка (паляўнічага). Архівы універсітэтаў Кракава і Балоньі дазваляюць меркаваць, што гэтыя цэнтры еўрапейскай навукі маглі быць альма-матэр і для Гусоўскага.

Гісторыкам літаратуры вядомыя і дакументы з больш канкрэтнымі звесткамі. Адносна нядаўна ў Варшаве даследчыкі знайшлі завераны Гусоўскім тастамент, які быў складзены ў 1518 годзе паблізу Ваўкавыска. Знаходка сведчыць, што тады паэт меў духоўны сан і называў сябе клерыкам Перамышленскай епархіі. Гусоўскі быў у складзе пасольскай дэлегацыі (1520—1522 гг.) Вялікага Княства Літоўскага да Папы Рымскага Льва X, якую ўзначальваў мецэнат і сябра паэта біскуп Эразм Вітэліус. Паслы мелі на мэце пераканаць папу ў неабходнасці стварэння альянсу еўрапейскіх дзяржаваў супраць Асманскай імперыі і ее васалаў — крымскіх татараў, якія амаль штогод рабілі спустошальныя набегі на землі Вялікага Княства і Кароны Польскай.

Гады, праведзеныя ў Вечным горадзе, сталіся для пасольскага сакратара Міколы Гусоўскага зорным часам.

Як часта здараецца, за з'яўленне шэдэўра нашай літаратуры мы ў значнай ступені павінны дзякаваць выпадку. Папа Леў X меў заслужаную славу тонкага знаўцы паэзіі і мастацтва, а таксама — вядома, у вольны ад выканання абавязкаў галавы касцёла час — захапляўся паляваннем. Таму аповяды Эразма Вітэліуса пра багатыя на зверыну пушчы далёкае радзімы знайшлі ўдзячнага слухача. Леў X выказаў жаданне атрымаць праўдзівы паэтычны твор аб паляванні на волата беларускіх лясоў — зубра. Сумленняў наконт таго, каму даручыць выкананне заказу, у кіраўніка пасольскае місіі не ўзнікла.

Перад Гусоўскім адкрылася перспектыва здабыць еўрапейскую вядомасць. Але не менш паэта натхняла магчымасць паведаміць свету пра гісторыю, велічы і славу Бацькаўшчыны, звярнуцца да хрысціянскай Еўропы з заклікам падтрымаць Вялікае Княства, якое апынулася перад небяспекай з Усходу. Гусоўскі ведаў, што ўяўленні пра яго краіну, нават у людзей адукаваных, звычайна зводзіліся да міфаў. У тыя часы ўсё яшчэ працягвалі выходзіць кнігі, са старонак якіх радзіма нашых продкаў паўставала казачнай краінай гіпербарэйцаў, дзе зоркі свяціл ўдзень і ўначы, па гарадах гулялі белыя мядзведзі, а людзі, як тыя цыклопы, мелі па адным воку.





Паэма, якая пакінула імя свайго аўтара ў стагоддзях, была напісаная на лаціне — тагачаснай міжнароднай мове культуры і навукі. У арыгінале яна мела назву *Carmen de statura Feritate ac venatione bisontis* («Песня пра аблічча, дзікасць зубра і паляванне на яго»).

Ліра Гусоўскага падаравала еўрапейскаму чытачу першую рэалістычную паэму пра нашую краіну. Паэт стварыў велічны гімн роднай зямлі, яе прыродзе, мужнай і гожай душы народа. Ён паказаў Вялікае Княства еўрапейскім бастыёнам змагання з турэцкай пагрозай.

*Кроў наша льецца ракой,*
*перамаючы поступ*
*Зграяў варожых, тымчасам —*
*шчыты нашы ў шчэрбах*
*Скрозь ад няшчадных удараў,*
*бо ворага зброя*
*Над галавою не знай адно...*

Гэтаксама як зубр стаў у паэме сімвалам Бацькаўшчыны, Вялікі князь Вітаўт увасабляе ў «Песні» ідэал мудрага і магутнага кіраўніка дзяржавы, таленавітага палкаводца і дыпламата. Гаворачы пра погляды Міколы Гусоўскага на дзяржаву і палітыку, варта згадаць, што «татарына, турка, маскавіта» ён разглядаў як суседзяў-супернікаў Княства і ні да каго з іх не меў піетэту. Апісваючы ў творы часы Вітаўта, аўтар адзначае, што гэтага князя «быццам нявольнік які, маскавіт называў уладыкам».

Якраз тады, калі паэт завяршаў паэму, усмешка Фартуны змянілася на грымасу. На Апенінскую паўвыспу, у італійскія землі прыйшла збіраць свой страшны ўраджай чума. У Рыме не хапала трунаў, і цэлы нябожчыкаў загацілі раку Тыбр. Паэт стаў сведкам таго, як у сталіцы хрысціянства тысячы людзей выракаюцца веры ў Збавіцеля і прыносяць ахвяры антычным багам. Трагічныя ўражанні ад ахопленага пошасцю Вечнага горада адлюстраваліся ў выдатным вершы-малітве «Да святога Себасцяна», дзе Гусоўскі заклікаў неба ўратаваць даведзеных да роспачы рымлянаў.

Чума не пашкадавала ні біскупа Вітэліуса, ні папу Льва X. Застаўшыся без магутных мецэнатаў, паэт страціў магчымасць надрукаваць сваю «Песню» ў Рыме. Заблытанымі еўрапейскімі дарогамі Гусоўскі дабіраецца да Кракава. Ён спадзяецца на дапамогу вялікай княгіні літоўскай і каралевы польскай адукаванай італьянкі Боны Сфорцы. Разлік аказаўся правільным. Дзякуючы ёй у 1523 годзе ў Кракаве, тагачаснай сталіцы Кароны, выходзіць кніга, куды разам з «Песняй пра зубра» ўвайшлі напісаныя ў Рыме вершы.





*Вокладка «Песні пра зубра». Кракаў, 1523 г.*

*Мікола Гусоўскі (ілюстрацыя злева) ва ўяўленні сучаснага беларускага мастака Віктара Сташчанюка.*

Аднак каралеўскі двор хутка забыўся на выдатнага паэта, якому наканавана было застацца ў гісторыі заснавальнікам лацінамоўнай рэнесансавай паэзіі Беларусі. Гусоўскі працягваў займацца літаратурнай творчасцю, але жорсткай рэальнасцю ягоных будняў робіцца матэрыяльная нястача і цяжкія хваробы. Змагаючыся з імі, ён стварыў яшчэ такія значныя рэчы, як паэмы «Новая і слаўтая перамога над туркамі...» (1524) і «Жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» (1525). Далей ягоны зямны шлях зноў губляецца ў тумане, абрываючыся недзе пасля 1533 года.

Еўрапейская слава і прызнанне напаткалі яго толькі ў XX стагоддзі, калі адбылося адкрыццё па сутнасці забытага паэта. «Песня пра зубра» перакладаецца на польскую, літоўскую, рускую і ўкраінскую мовы. У 1980 годзе ЮНЕСКА з нагоды 500-годдзя паэта ўключыла імя Міколы Гусоўскага ў каляндар міжнародных датаў выдатных дзеячаў сусветнае культуры.

Сёння існуе тры вядомыя перастварэнні «Песні» па-беларуску, якія належаць пяру Язэпа Семяжона, Уладзіміра Шатона і Наталлі Арсенневай (з яе перакладу, упершыню надрукаванага ў Беларусі летась у 7-м нумары часопіса «Крыніца», і ўзятыя цытаты для гэтай публікацыі).

Апошняе выданне «Песні пра зубра» было пяць гадоў таму, і знайсці кніжку ў беларускіх кнігарнях немагчыма.

Хтосьці, відаць, цешыўся надзеяй, што сёлетні юбілей дапаможа пераадолець гэты дэфіцыт. І сапраўды, сабраныя пад адну вокладку тры беларускія пераклады «Песні» разам з яе рускамоўнай версіяй не адзін год фігуравалі ў планах выдавецтва «Мастацкая літаратура». Падобна, аднак, на тое, што ў Дзяржкамітэта па друку ёсць намер адзначыць 475-годдзе першага выдання шэдэўра нашай літаратуры яшчэ адным «скарачэннем пазіцый». Прынамсі, у плане выпуску кніг «Мастацкай літаратуры» зборнік перакладаў «Песні», цалкам падрыхтаваны да друку і цудоўна аформлены народным мастаком Беларусі Арленам Кашкурэвічам, сёлета ўжо не значыцца.

Існуе, праўда, незалежны праект: зноў — толькі ўжо цяпер па-беларуску — выдаць «Песню пра зубра» ў Кракаве. Можа, беларуская дзяржава хаця б увойдзе ў долю?

# Дважды украденное искусство

**В респектабельном музейном мире паника. Рушатся незыблемые традиции, надежнейшие договора и гарантийные обязательства превращаются в клочки бумаги, директора престижных музеев отбиваются от репортеров и адвокатов.**

Долгое время о реституции говорили только в связи с бесконечным российско-германским спором о произведениях искусства, вывезенных в СССР сталинскими трофейными бригадами или похищенных нацистами. Теперь ситуация резко изменилась. «Культурные ценности, перемещенные во время Второй мировой войны», стали всемирной проблемой.

### «Дорога к храму» через банк

О том, что в музеях мира находятся тысячи произведений с «темным» военным прошлым, было известно всегда. Но музеи давным-давно научились ставить на место тех, кто предъявлял претензии на картины или скульптуры, осевшие у них после войны. Главный аргумент был такой: если раздать все «по месту прописки», то и музеев не останется.

Но вот грянул скандал с золотом погибших евреев, хранившимся в швейцарских банках. Прозорливые наблюдатели уже тогда поняли, что если перед требованием справедливости по отношению к жертвам Холокоста не устоял авторитет банка — святая святых современной цивилизации, то уж «храму искусств» — музею — не устоять и подавно.

### Утраченные музеи

Первыми под огонь критики попали французские музеи. В 1996 году американский журналист Гектор Фелициано выпустил книгу «Утраченный музей». В ней он рассказал о том, что после войны Франция получила от союзников 61.000 произведений искусства, захваченных нацистами у евреев и других «врагов рейха» на ее территории. Эти произведения должны были быть возвращены законным владельцам. Но отдано было только 43.000. На остальные, как утверждали французские власти, не нашлось претендентов. Часть из них была продана, а оставшиеся 2.000 разошлись по французским музеям, где они числились как фонды специально созданной организации под названием «Национальный музей возвращения» (*MNR*).

Французы на книгу отреагировали мгновенно: в апреле 1997 года в Лувре и других крупнейших музеях страны открылись выставки картин из «утраченного музея», а их список был помещен в Интернет. Владельцы не заставили себя ждать. В июле 1997 года было возвращено первое произведение из списка *MNR* — кубинский пейзаж Альберта Глеза, который нацисты захватили в 1940 году вместе с 1.200 картинами знаменитого коллекционера Альфонса Канна. Сам Канн, одноклассник и друг Марселя Пруста, успел уехать в Англию, но его имущество, как и имущество других евреев, было конфисковано. Внучатый племянник Канна Френсис Уорин сумел доказать свои права на картину и получил ее обратно.

Дальше — больше. Настырный племянник потребовал одну из лучших картин в экспозиции Центра Помпиду — «Гитариста» Жоржа Брака, конфискованного у Канна. Шедевр Брака поменял многих хозяев, пока в 1981 году не был куплен Центром Помпиду за 9 миллионов франков. Музей утверждает, что ничего не знал о прошлом картины.

### Пожар за океаном

Реституционные страсти разгорелись и в США. В начале января 1998 года окружной прокурор Манхэттена Роберт Моргентау наложил арест на две картины художника-экспрессиониста Эгона Шиле, прибывшие из Австрии на его выставку в Музее современного искусства (МОМА). Прокурор заявил, что возбуждено уголовное дело, в котором картины Шиле являются вещественными доказательствами. Оказывается, американские родственники венских евреев, бывших владельцев картин, потребовали, чтобы Моргентау защитил их права.

Австрийцы немедленно заявили протест: ведь перед началом выставки МОМА дал им все необходимые гарантии возврата картин. Впервые за последние 30 лет были нарушены международные права выставочного обмена. И сделал это представитель американского правосудия! Музейный мир был потрясен — под угрозой оказалась вся система международных культурных связей.

Вскоре выяснилось, что одна из картин Шиле — «Мертвый город III» — скорее всего попала в «черный список» по ошибке. Она действительно была конфискована нацистами у венского комика Фрица Грюнбаума, погибшего в концлагере Дахау. Однако после войны «Мертвый город III» был возвращен вдове его брата, а затем куплен Фондом Леопольда. Американские родственники Грюнбаума, обратившиеся к прокурору Моргентау, ничего не знали о возвращении картины австрийской ветви своей семьи. Зато история второй картины вызвала взрыв негодования. «Портрет Валли» был конфискован в 1938 году у галеристки Леа Бонди Джерей. В 1945 году союзники нашли эту работу Шиле в нацистском тайнике и передали австрийским властям с тем, чтобы те возвратили портрет владельцам. Но вместо этого картина оказалась в Фонде Леопольда в Вене.

Несмотря на то, что МОМА поддержал протест австрийцев, дело передано в Верховный суд Нью-Йорка. Смятение, воцарившееся в музейной среде после решительных действий манхэттенского прокурора, получило название «шок Шиле».

Ассоциация музейных директоров США немедленно учредила комиссию по проверке собственных коллекций. Американские музейщики хотят знать, какие «скелеты» они хранят в своих шкафах. И на то есть серьезные основания. Юристы — «охотники за сокровищами» — выискивают по всему миру наследников жертв Холокоста. Процессы против американских музеев, в которых теперь хранятся произведения, конфискованные нацистами, могут принести адвокатам многомиллионные прибыли.

### Грабеж в законе

Однако основные последствия «шока Шиле» испытала Австрия. Венская газета «Стандарт» писала: «Произведения искусства были сначала украдены нацистами, а затем второй раз австрийскими властями». Эти обвинения тем обиднее, что Австрия считалась страной «идеальной реституции».

*(Продолжение на стр. 4)*

## Без комплексов

**Как показала исследование, проведенное учеными Московского университета, доля людей с дефектами дикции среди всех россиян составляет один процент, а среди радиожурналистов, дикторов и телекомментаторов — десять процентов.**

Аналогичные тенденции выявляются и у людей с другими физическими недостатками. Например, дальтоники довольно часто считают себя хорошими живописцами, тугоухие любят рассуждать о музыке, косоглазых много среди болельщиков таких видов спорта, как биатлон и стрельба. Что ж, еще древние римляне говорили: я человек — и ничто человеческое мне не чуждо.

## Отдай ядерный реактор в музей

**Исследовательский ядерный центр в немецком городе Карлсруэ подарил свой последний атомный реактор музею.**

Это, однако, не настоящий реактор атомной электростанции, а учебный — мощностью всего в 0,1 Вт. Он использовался в течение тридцати лет для обучения операторов АЭС, но, во-первых, сильно устарел, а во-вторых — спрос на эту профессию в Германии резко уменьшился: немцы стали потреблять меньше энергии и со времени чернобыльской аварии не построили и не спроектировали ни одной ядерной электростанции.

## Платье из газеты

**В прошлом году выходящая в китайском городе Ханчжоу «Биржевая газета» выпустила один номер не на бумаге, а на тонкой шерстяной ткани. Эффект превзошел все ожидания.**

Номер вышел небольшим тиражом — всего 5 тысяч экземпляров. Этот проект был задуман как часть рекламной кампании местной тонкосуконной фабрики. Идея оказалась чрезвычайно удачной: дамские платья из газеты вошли в моду и пользуются необыкновенной популярностью не только у китаянок. Теперь «Биржевая газета» имеет поклонников также в Японии и Соединенных Штатах, которые щеголяют облаченными в газетные страницы. Но назвать этих дамочек читательницами вряд ли можно: газета выходит на китайском языке, который, как известно, имеет весьма специфическое письмо.

## Почему нельзя щекоткой рассмешить самого себя?

**Этот вопрос стал названием целой книги о тайнах нашего организма, написанной американской научно-популярной писательницей И.Джонсон.**

Щекотка воспринимается кожей и передается в мозг как некий сигнал угрозы. Действительно, «пощекотать» нас может ядовитое насекомое или еще какая-нибудь опасная тварь. Когда же мгновенный испуг проходит и человек осознает, что никакой угрозы нет, он облегченно разражается нервным смехом. Сильнее щекотка — сильнее испуг — сильнее смех. Однако очень сильная щекотка вызывает нервное перенапряжение и боль.

Если же щекотать самого себя, мозг, посылая команду пальцам, уже знает, что ничего страшного нет, поэтому не возникает необходимости в нервной разрядке, человек не смеется.

## За решетку с шедевром

**Австралийский бизнесмен Ален Бонд даже в заключении не расстанется со своей любимой картиной.**

Администрация тюрьмы разрешила ему взять с собой в камеру картину «Ирисы» кисти Ван Гога. Большой любитель изобразительного искусства недавно был арестован за мошенничество, но не решился оставить картину без присмотра. И не удивительно — 10 лет тому назад он заплатил за нее 54 миллиона американских долларов.

## Кто поможет Гейтсу потратить деньги?

**Даже самый далекий от компьютеров человек, наверное, знает, кто самый богатый в мире. Правильно — Билл Гейтс, глава корпорации *Microsoft*.**



На днях цифра, которой выражается личное состояние Гейтса, перевалила за отметку 50 миллиардов долларов. Для сравнения — в мае прошлого года у него было «всего» 34 миллиарда. Гейтс теперь может раздать по 187 долларов каждому из двухсот семидесяти миллионов американцев. Или купить Форт-Нокс (где хранится золотой запас США) и при этом еще кое-что в карманах останется. Или поехать в Лас-Вегас и просаживать в рулетку по двенадцать с половиной миллионов ежедневно — и так вплоть до 2010 года.

## Ведите дневники

*Они врачуют тело и душу*

Удивительное свойство ведения дневников выявили американские ученые. Им удалось установить, что привычка регулярно излагать на бумаге свои мысли, эмоции и ощущения благотворно влияет на здоровье, ибо выраженная словами причина тревог и терзаний уже не вызывает столь острых мучений.

И хотя речь не идет ни о заболеваниях сердца, ни о заболеваниях типа шизофрении, тем не менее регулярные дневниковые записи, касающиеся самых сокровенных мыслей и ощущений, способны помочь не только преодолеть состояние депрессии, укрепить дух человека, но могут предотвратить и простудное заболевание, заставив активнее работать иммунную систему организма. По мнению исследователей, дневник помогает снять излишнее возбуждение, выйти из депрессии, улучшить успеваемость в учебном заведении и даже сохранить свое рабочее место.

По мнению одного из пионеров работ в этой области, профессора психологии Техасского университета Джеймса Пеннебэйкера, самоанализ сокровенных мыслей и чувств не является панацеей, и столкнувшемуся со смертью, крушением семьи или иной драмой не станет мгновенно лучше после того, как он «выплеснет» эмоции на бумагу. Вместе с тем, ученый считает, что ведение дневника *«следует рассматривать в качестве превентивного, достаточно недорогого и простого, хотя порой и мучительного, средства сохранения нашего здоровья»*.

Почему «письмотерапия» срабатывает, пока остается загадкой, но ее воздействие на организм очевидно для писателей и фиксируется в экспериментах ученых. Сразу после того, как человек письменно излил свою душу, у него понижаются давление и пульс, а кожа становится суше, что позволяет предположить о его расслабленном состоянии. Явление физического расслабления на фоне возбужденной психики (аналогичное состояние наблюдается и у проходящих проверку на «детекторе лжи») стало именно тем феноменом, который заставил Пеннебэйкера заинтересоваться терапевтическим воздействием дневниковых записей.

Длительные наблюдения позволили показать, что ведение записей улучшает работу иммунной системы и снижает число случаев заболевания простудой и гриппом. «Письмотерапия» дает положительные результаты в широком диапазоне заболеваний, начиная с депрессии и кончая расстройствами, вызванными посттравматическим шоком. Причем это не зависит ни от возраста, ни от расы, ни от уровня интеллектуального развития. Небольшое расхождение существует только между мужчинами и женщинами. Больший положительный эффект методика оказывает на сильный пол. Вполне вероятно, что это связано с тем, что, в отличие от прекрасной половины, мужчины не любят говорить вслух о своих чувствах.

В конечном итоге, профессор Пеннебэйкер рекомендует, на протяжении как минимум четырех дней подряд, записывать свои мысли и эмоции в течение 20 минут, не прерываясь и не задумываясь ни над грамматикой, ни над правописанием. Ни в коем случае не следует заниматься простым излиянием на бумагу жалоб и эмоций, дескать бумага все стерпит, — это не поможет. Максимальный терапевтический эффект достигается только в том случае, если пишущий способен изложить на бумаге свои сокровеннейшие мысли и чувства о вопросе, денно и нощно преследующем его.

Вывод в итоге напрашивается один: ведите дневники — они врачуют душу и тело.

**Владимир РОГАЧЕВ**

## *Анекдоты*

***

*Едет 600-ый «мерседес», а за ним скорая помощь и пожарная. Как положено, около поста ГАИ его тормозят, а за ним сразу и «скорая» с «пожаркой» останавливаются. Милиционер недоумевает:*

*— Вы-то чего остановились, проезжайте, я только «шестисотый» останавливал.*

*Тут водитель говорит:*

*— А это со мной.*

*Милиционер удивляется:*

*— Зачем тебе это?*

*— Так из-за вас, паразитов! То вам аптечку покажи, то огнетушитель...*

***

*Приходит мужичок в магазин. Смотрит — на прилавке что-то красивое, воздушное, легкое. Он подходит к продавщице и спрашивает:*

*— Скажите, а что это у вас там такое красивое, легкое, воздушное?*

*— Да это ж йогурт!*

*— А-а-а! (мечтательно) Йогурт!.. Две бутылки портвейна, пожалуйста.*

***

*В самолете. Стюардесса подходит к командиру и говорит:*

*— В салоне террорист с бомбой спекулирует парашютами.*

***

*Встречаются двое.*

*— А вы слыхали, какое пугало Рабинович поставил у себя на огороде?*

*— Нет, а какое?*

*— До того страшное, что вороны вернули урожай за прошлый год!*

***

*Объявление: «Куплю оверлок б/у недорого, хоть узнаю, что это такое».*

***

*Запись на автоответчике: «Скорее всего я дома, но не хочу разговаривать с одним очень неприятным мне человеком. Оставьте мне сообщение, и если я не перезвоню, значит это — вы...»*

***

*Однажды в чукотском селении родился умный мальчик. Его с позором выгнали... Так появились японцы.*

# Дважды украденное искусство

*(Начало на стр. 3)*

Еще в 1996 году австрийцы устроили благотворительный аукцион картин, возвращенных союзниками и не нашедших своих хозяев. 14,5 миллиона долларов поступили в фонд жертв Холокоста. Однако после нью-йоркского скандала стало ясно, что часть наиболее ценных картин еще в 40-е годы была передана крупнейшим государственным собраниям.

Австрийская бюрократия разработала целую систему присвоения собственности жертв Холокоста, используя «законные» методы. Уцелевшие евреи не желали оставаться в стране, где пережили ужасы геноцида, и хотели увезти с собой возвращенные союзниками коллекции. Однако закон 1918 года запрещает вывоз из Австрии «национального достояния». Поэтому желающим уехать из страны власти делали предложение: отдать австрийским музеям лучшие произведения в обмен на разрешение вывезти остальное. Например, семья Ротшильдов была вынуждена «подарить» Музею изобразительных искусств в Вене 10 шедевров старых мастеров. Еще 12 картин Ротшильды оставили в музее Бельведер. Значительная часть их коллекций поступила в Музей прикладного искусства и собрание графики Альбертина.



*Гитлер с Герингом просматривают произведения для будущего супермузея в родном городе фюрера Линце.*

Наследники промышленного магната Фердинанда Блох-Бауэра получили разрешение вывезти 18 картин. За это они оставили в Вене 22 полотна известных художников (в том числе 7 шедевров Густава Климта) и в придачу коллекцию ценнейшего фарфора.

Особенно оскорбительно для наследников жертв Холокоста было то, что произведения искусства оставались в тех самых музеях, куда их распределили нацисты после конфискации 1938 года.

Факты были столь убийственны, что в начале марта министр культуры Австрии Элизабет Герер пообещала вернуть ценности истинным владельцам. Она назначила комиссию по проверке происхождения всех музейных экспонатов. Министра поддержали директора крупнейших музеев. Новое поколение музейных работников не хочет иметь ничего общего со своими предшественниками, устроившими пятьдесят лет назад позорную торговлю с жертвами Холокоста. Если австрийцы вернут картины, будет создан прецедент, способный потрясти музейные традиции.

### Дела российские

«Дважды украденное искусство» есть и в российских музеях. Сначала художественные ценности были конфискованы нацистами, а затем попали в руки сталинских трофейных бригад. Сейчас эти работы числятся среди той части трофеев, происхождение которых неизвестно. А таких произведений «без прошлого» только в коллекции Эрмитажа более 25.000 (среди них 547 картин).

Но из-за моратория Думы на «принятие любых решений, связанных с возвращением культурных ценностей, перемещенных в годы Великой Отечественной войны, до принятия закона по этому вопросу» специалисты не имеют возможности изучить их и выяснить имена владельцев.

Защитники жесткого варианта закона о «перемещенных ценностях», одобренного Думой, говорят о нравственном преимуществе России в споре о реституции. Но нравственно ли присваивать «дважды украденное искусство»? События последних месяцев показали, что музеи и правительства Европы и Америки понически боятся обвинений в том, что они вслед за нацистами завладели собственностью их жертв. Похоже, России этот страх пока неведом.

**Григорий КОЗЛОВ,**
*Итоги*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1177 Нумар падпісаны ў друк 14.04.98 (15:00) Наклад — 19.390